*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 11 (499)** **14 САКАВІКА 2001 г.**

МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
220050, г. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 8
Тэл.: 227-05-75



МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
220050, г. Минск, проспект Ф. Скорины, 8
Тел.: 227-05-75

№ 3-643 от 02.03.2001г.
от 09.02.2001 № 89

Старшыні Мінскай гарадской арганізацыі
ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Анісім А. М.

**Паважаная Алена Мікалаеўна!**

У Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце разгледжана Ваша заява аб правядзенні пікета 13 сакавіка 2001 г. па вул. Макаёнка, 9 (на супрацьлеглым боку будынка) з мэтаю прыцягнуць увагу кіраўніцтва Беларускай нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі і тэлекампаніі СТБ.

У адказ на заяву паведамляем, што пры разглядзе пытанняў, абгрунтаваных Вамі тым, што кіраўніцтва беларукага тэлебачання не звяртае ўвагу да роўнасці абедзвюх дзяржаўных моў, Мінгарвыканкам сцвярджае факт таго, што беларуская і руская мовы займаюць аднолькава роўнае значэнне. Прыкладам гэтага з'яўляецца тое, што на БТ асноўныя тэлепраграмы вядуцца на беларускай мове. Гэта такія тэлепраграмы, як "Панарама", "Навіны", "Спорткур'ер". "Калыханка", "Тэленавігатар", "Французскі канал", "Існасць", "Тэлебарометр" а таксама ўсе трансляцыі спартыўных гульняў. Адначасова чатыры праграмы вядуцца на беларускай і рускай мовах: "Сталіца", "Сустрэча ў Траецкім", "Планета Арт", "Стадыён".

Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт лічыць неабгрунтаваным правядзенне пікета ў згодзе з тымі пунктамі, якія Вы выказваеце, і на гэтай падставе яго правядзенне з'яўляецца нямэтазгодным. Шчыра выказваем павагу да грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і асабіста да Вас і спадзяёмся, што Вы перагледзіце сваю заяву і прыйдзеце да высновы адмяніць пікетаванне.

**Намеснік старшыні М. А. Пятрушын.**

## "Наша слова" № 500

**24 сакавіка ў 12. 00 ў Дольнай зале Чырвонага касцёла адбудзецца імпрэза, прысвечаная выхаду ў свет 500-га нумара газеты "Наша слова".**

**У 14. 00 там жа пройдзе чарговы гістарычны семінар на тэму "Беларусь на пераломе эпохаў. 1914-1918 г.г."Асноўныя дакладчыкі на семінары кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан і доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч.**

**У 16. 00 там жа пройдзе паседжанне Рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі.**

**Дадатковую інфармацыю і запрашальны білет можна атрымаць у сядзібе ТБМ. Звяртацца да Сяржука Кручкова.**

## ТБМ адрадзілася на Мсціслаўшчыне

10-га сакавіка ў горадзе Мсціславе Магілёўскай вобласці адбыўся арганізацыйны сход па адраджэнні ТБМ у раёне. На сходзе прысутнічаў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Прысутныя адрадзілі дзейнасць Мсціслаўскай раённай арганізацыі, стварылі суполку ў складзе пяці чалавек начале з вядомым беларускім рэстаўратарам Юрасём Маліноўскім.

*Наш кар.*

Грамадскае аб'яднанне БНФ "Адраджэньне", Грамадскае аб'яднанне "Дыярыюш", Грамадская ініцыятыва "Культурны кантакт", Грамадскае аб'яднанне "Сакавік"

абвяшчаюць

КОНКУРС ДЗІЦЯЧАГА МАЛЮНКА

### "Мая краіна - мая свабода",

прысвечаны Дню абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі - 25 сакавіка.
Удзел у конкурсе прапануецца для школьнікаў усіх класаў.
Лепшыя працы трапяць на выніковую выставу конкурсу, а іхнія аўтары будуць адзначаныя памятнымі прызамі.
У журы конкурсу ўваходзяць беларускія мастакі, гісторыкі і грамадскія дзеячы.
**Тэрмін правядзення конкурсу: ад 1 да 20 сакавіка 2001 года.**
На конкурс прымаюцца працы фарматам А-4 і А-3 (фармат машынапіснай паперы і падвойны). Тэхніка выканання адвольная.
Неабходны дакладны і разборлівы подпіс, а таксама імя, прозвішча і адрас аўтара на асобным аркушы.

**Працы трэба дасылаць на адрас: а/с 128, 220064, г. Менск, ГА "Дыярыюш", даведкі па тэлефоне (8-017 227-51-09)**

## "Вялікая падарожная кніга Беларусі"

11-га сакавіка ў Менску адбылося паседжанне рабочай групы Асацыяцыі краязнаўчых арганізацый Асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі. Рабочая група разгледзела кірункі дзейнасці Асацыяцыі ў 2001 годзе. Рабочая група адхіліла, прапанаваную Станіславам Суднікам "Грамадскую праграму інвентарызацыі нацыянальнай спадчыны беларускага народа", матывуючы гэта недахопам сілаў і сродкаў, і спынілася на частковым варыянце збору і апрацоўкі ўжо здабытых краязнаўчых матэрыялаў. У выніку апрацоўкі павінна з'явіцца кніга, што ўключыць практычна ўсю краязнаўчую інфармацыю, сабраную за мінулыя гады. Для кнігі прапанавана рабочая назва "Вялікая падарожная кніга Беларусі". Назва кнігі прадугледжвае перш за ўсё падачу аб'ектаў нацыянальнай спадчыны ўздоўж асноўных транспартных магістраляў Беларусі. Шырыня паласы падачы рэгіёнаў не абмяжоўваецца. Мяркуецца, што ў выніку гэтай праграмы будзе сістэматызавана краязнаўчая інфармацыя не менш, як з трэці раёнаў і гарадоў Беларусі.

Разам з тым "Праграма інвентарызацыі нацыянальнай спадчыны беларускага народа" з павесткі дня не здымаецца. Хто возьмецца за яе рэалізацыю, родная Беларуская дзяржава ці грамадскія арганізацыі, пакажа час. Але важнасць гэтай працы відавочная. Журботным міфам пра беларускую векавечную беднасць і безнадзейнасць павінен быць паложаны канец. Калі чым мы і бяднейшыя, дык толькі пачуццём уласнай годнасці.



Мэтай адрадзіць забытыя старадаўнія рамёствы задаўся цэнтр, створаны ў вёсцы Ўборкі Лоеўскага раёна. Многія сельскія дзеці з захапленнем спасцігаюць тут таямніцы вырабу прадметаў з гліны, лазы, саломкі. Іх першыя поспехі належна ацэнены на абласной выставе. Майстэрства гэтых дзяцей -- таксама нацыянальнае багацце.

**На здымку:** найбольш здатнымі вучнямі майстрыхі пляцення з лазы і саломкі Вялянціны Мікалаеўны Бярнадскай аказаліся Міша Шландзікаў і Алег Дарошчанка.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

## "Ад Каляд да Пакроваў"

Праз выдавецтва ТАА "Красіка-прынт" (серыя "Беларусь святочная") у 2000 годзе пабачыла свет кніга "Ад Каляд да Пакроваў", у якой чытачы знойдуць шэраг творчых распрацовак гульнёвых праграм да святаў усіх каляндарных цыклаў.

Як азначае ў сваёй прадмове аўтар кнігі, загадчык кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры Пятро Гуд, гульнёвыя праграмы, надрукаваныя ў ёй, пабудаваны пераважна на падставе фальклёрна-этнаграфічнай спадчыны Меншчыны, але ўтрымліваюць і матэрыялы з іншых рэгіёнаў нашай краіны. Ёсць сярод іх і аўтэнтычныя распрацоўкі, і творча пераасэнсаваныя ды прыстасаваныя да сучаснага свята. Дарэчы, у кнігу ўвайшлі і кірмашовыя забавы беларусаў, аналагі якім у іншых народаў свету пакуль не знойдзены.

Кніга будзе цікавай ды карыснай для супрацоўнікаў культуры пазашкольных ды школьных устаноў, а таксама дапаможа нядрэнна бавіць вольны час усім, хто захапляецца беларускім фальклёрам.

## Новыя арганізацыі ТБМ

На паседжанні Сакратарыяту ТБМ, якое адбылося 1-га сакавіка была зарэгістравана Бялыніцкая гарадская арганізацыя ТБМ (Магілёўская вобласць). Кіраўніком арганізацыі абраны Сяргей Некрашэвіч.

Створаны дзве суполкі ТБМ з вучняў і выкладчыкаў у Беларускім гуманітарным адукацыйным ліцэі імя Якуба Коласа. Выкладчыцкую суполку ўзначаліў Лявон Баршчэўскі, а навучэнцкую Наталля Годзіч.





# Да Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі

Я вельмі ўважліва прачытаў артыкул Сяргея Запрудскага "Да суаднасінаў рацыянальнальнага і эмацыянальнага ў дзеянні ТБМ (№ 8, 21.02.01г. "Наша слова"). З усяго прачытанага я зразумеў, што аўтар, намеснік старшыні Рабочай групы па выпрацоўцы стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI ст. фактычна выступае супраць дзяржаўнасці беларускай мовы, хоць наўпрост гэта і не кажа. Аднак яго цынічнае заключнае выказванне гаворыць само за сябе, цытую:"Рыторыка тыпу "трэба, каб беларуская мова запанавала ў Беларусі" мала таго, што ігнаруе некаторыя вельмі важныя існыя спецыфічныя асаблівасці сацыялінгвістычнага статусу беларускай мовы, дык яшчэ, акрамя таго, можа проста дэзарыентаваць таго, хто будзе ставіць такія задачы".

Вось як крута. Ажно страшна становіцца ад такога выказвання. Я, з маёй тэхнічнай адукацыяй, і не падазраваў, што беларуская мова так "мёртва" прывязана да расейскай. Адсюль, па аўтару, вынікае, што без рускай мовы (вядома дзяржаўнай) нам аніяк не абысціся.

Ну, а якая роля адводзіцца, паводле аўтара, беларускай мове (вядома яна будзе таксама дзяржаўнай)? Развівацца яна будзе па валійскай стратэгіі, г. зн. будуць акрэслены канкрэтныя сферы яе ўжывання. Аўтар іх не называе (гэта ж толькі дыскусія), але мне здаецца гэта будуць такія сферы як курылка, лазня, рыбалка, вядома, дачныя ўчасткі. Можа будуць нейкія іншыя сферы, якія вызначыць Рабочая група.

Вельмі моцна сказана на карысць расейскай мовы, пра яе канкурэнтаздольнасць. Не ведаю, як нам у Татарыі, ці Башкірыі, але што рабілася і робіцца ў Беларусі, зведаў на ўласным досведзе. Недзе ў сярэдзіне 90-х гадоў нам, бацькам вучняў 2-га класа СШ №11 г. Гародні, было безальтэрнатыўна сказана кіраўніком, што клас пераводзіцца на рускую мову навучання. Ніякія довады не прымаліся. Вось так у выніку "канкурэнцыі" беларускамоўны клас стаў рускамоўным. Так у нашай дзяржаве рэалізуецца Канстытуцыйнае права грамадзян на адукацыю. Відаць такая "канкурэнцыя" рускай мове і ў Татарыі, толькі выбару ў іх, відаць, яшчэ менш, чым у нас. І ўжо зусім беспадстаўна, на мой погляд, непакоіцца аўтар аб лёсе моў у Літве, Чэхіі, Польшчы. Мовам гэтых народаў ніякія мовы – гіганты не пагражаюць, бо ў іх (моў і народаў) ёсць каму за іх заступіцца – гэта іхнія дзяржавы, якія гарантуюць захаванне мовы на этнічнай тэрыторыі сваім існаваннем. Не будзе дзяржавы – не будзе мовы. А не так, як у нас: ёсць дзяржава – няма мовы. І наогул, няўдзячная гэта справа гаворачы аб стратэгіі (будучыні) абароны і развіцця беларускай мовы дапускаць дэмагагічныя выпады супраць яе, цытую: "Беларуская мова не можа займаць такое ж месца ў Беларусі, якое займае ў Польшчы польская, а тым больш французская ў Францыі і расійская ў Расіі. На гэта ёсць занадта многа прычын, пра якія тут гаварыць не выпадае" Ну ніяк не магу ўцямiць, чаму беларуская мова не можа заняць такое месца ў Беларусі, як французская ў Францыі? Можа таму, што я проста мару пра гэта. Была ж некалі ў Чэхіі нямецкая мова, а цяпер яе няма. Ці возьмем больш блізкі прыклад – Латвію. Некалі (здаецца зусім нядаўна) там панавала расейская мова, а цяпер яна замежная!?

І ў нас так некалі будзе, калі дзяржава прызнае яе (беларускую мову) сваёй.

Карыстаючыся выпадкам, хачу выказаць сваё бачанне стратэгіі развіцця беларускай мовы. Беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай мовай, гэта вынікае, у тым ліку, і з улікам апошняга перапісу насельніцтва. Рускай мове надаць статус замежнай, як гэта зрабілі нашы суседзі (Літва і Латвія) і іншыя краіны.

А на якой мове, ці мовах, нам размаўляць з светам, то гэта іншае пытанне. І калі мы не ведаем як яго вырашыць, то можна паглядзець, як гэта робяць іншыя краіны, тут нічога вынаходзіць не трэба.

Сістэма адукацыі безумоўна залежыць ад дзяржаўнасці мовы, лепш сказаць яны ўзаемазвязаны. Тут нічога вынаходзіць не трэба таксама, аб гэтым у Л. Лыча добра сказана.

Лозунг: "Трэба, каб у Беларусі запанавала беларуская мова", на мой погляд, павінен стаць мэтаводнай зоркай стратэгіі абароны і развіцця бел мовы ў XXI стагоддзі. Бо калі, не будзе ў нас панаваць беларуская мова, то будзе панаваць расейская (маю на ўвазе стратэгію – XXI стагоддзя).

І яшчэ хачу выказаць такую думку. Калі ўжо разгарнулася дыскусія аб стратэгічным развіцці беларускай мовы, то і друкаваць патрэбна нейкія станоўчыя прапановы, прыклады, разважанні на карысць бел.мовы, а не супраць яе, тыпу: "беларуская мова не можа займаць такое ж месца ў Беларусі, якое займае ў Польшчы польская". Таму тую газету чытаюць у далёкіх і блізкіх краінах, вядома і ў Беларусі (лічу, што так) і калі чытачы будуць чытаць такія адмоўныя выпады супраць мовы, то пэўна, у іх узнікнуць нейкія пытанні, як напрыклад: "а навошта ўся гэта вазня вакол мовы, калі яна заведама бесперспектыўная" і вядома, знікне ўсякая цікавасць да гэтага пытання.

І апошняе. Я даўно чытаю і выпісваю газету "Наша слова", і заўсёды з цікавасцю яе ўсю прачытваю. Таму карыстаючыся выпадкам хачу выказаць шчырую падзяку рэдакцыйнай калегіі газеты, усім яе карэспандэнтам, і заснавальніку – ТБМ імя Ф. Скарыны і асабіста яе кіраўніку Алегу Трусаву.

З павагай

*Шаўроў В. М. г. Гародня.*

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА І СУДОВЫЯ ОРГАНЫ

***Даклад на канферэнцыі "Нацыянальная ідэя: шляхі кансалідацыі грамадства" Валерыя Грыцука, старшыні дэпутацкай камісіі па захаванні законнасці, ахове правоў грамадзян, галоснасці і вывучэнні грамадскай думкі Першамайскага райсавета г. Менска***

"Мы – беларусы.." – так здаецца, пачынаецца гімн Рэспублікі Беларусь. Калі мы – беларусы, то мова наша ёсць беларуская мова.

Гонар, годнасць нацыі – гэта найперш абарона сваёй мовы. Здаецца, што ўсе гэта такія зразумелыя, бясспрэчныя ісціны, сутнасць здаровага сэнсу. Так, але толькі не для некаторых дзяржаўных чыноўнікаў, якія шукаюць на грошы падаткаплацельшчыкаў – беларусаў. Дарэчы, прадстаўнікоў карэннай нацыі, беларусаў у нашай краіне больш за 70 адсоткаў. Таму было цалкам лагічна, што адзінай дзяржаўнай мовай была мова беларуская. На жаль, "абкруцілі" нас, і вось ужо і руская мова стала дзяржаўнай. Тым ня менш, у артыкуле 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: "Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца беларуская і руская мовы". І то ёсць канстытуцыйнае права грамадзян карыстацца і спажываць інфармацыю на беларускай мове.

Нядаўна А. Р. Лукашэнка сказаў, што беларуская мова ў нас не прыціскаецца... А рэальна? Наступны дакумент, нарматыўны акт. Закон Республікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" арт. 4,14,17 і іншыя дэталёва тлумачыць парадак і неабходнасць карыстання дзяржаўнымі мовамі ўсімі дзяржаўнымі структурамі і органамі. Права карыстання беларускай мовай і атрыманне на ёй адказаў гарантуецца арт. 3. Абавязак карыстання беларускай мовай органамі пракуратуры зацвярджаецца арт.17, а ў судовых органах пачэснае месца беларускай мовы, абавязковасць карыстання ёю вызначаецца артыкулам 14.

Наступны нарматыўны акт: Закон Рэспублікі Беларусь "Аб асновах службы у дзяржаўным апарацэ". Арт. 4 патрабуе "Забеспячэнне рэалізацыі правоў і законных інтарэсаў грамадзян і юрыдычных асоб". Якраз у мэтах забяспячэння правоў грамадзян, арт 3 Закона "Аб мовах" і Савет Міністраў падкрэсліў праз $6.4.1. Кваліфікацыйнага даведніка і патрабуе ад дзяржаўных служачых валодання беларускай мовай. Больш таго, у Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях ёсць норма адказнасці за парушэнне заканадаўства аб мовах, а зараз і ў Крымінальным кодэксе, арт.190, як перашкода ў ажыццяўленні канстытуцыйных нормы. І, нарэшце, асноўны нарматыўны акт для судовага працэсу: Грамадзянскі працэсуальны кодэкс, арт. 16 таксама гарантуе беларусам карыстанне беларускай мовай падчас судовага працэсу. З другога боку, ёсць магчымасць, адпаведна заканадаўству, ужываць і рускую мову. Такім чынам, відавочна, што ёсць нарматыўная аснова для таго, каб беларуская мова змагла стаць тым лінгвістычна-сацыяльным полем дзеля аб'яднання грамадства, што дазволіць нашаму грамадству ўсё ж такі кансалідавацца ў нацыю, нацыю Беларусаў. З другога боку, у гэтай сферы сацыюму, судовай, ствараюцца штучныя перашкоды беларускай мове. Гэта пачынаецца з таго, што практычна няма шыльдаў, надпісаў у будынках судоў на беларускай мове, беларускай мовай неафармляюцца дакументы на ёй не вядзецца судовы працэс. Я асабіста меў дачыненне з судамі Першамайскага, Ленінскага, Маскоўскага, Фрунзенскага раёнаў г. Менска, Менскага гарадскога суда. Літаральна нідзе я не бачыў і не пачуў беларускага слова. Наадварот, мае (хадайніцтвы) прапановы карыстацца беларускай мовай не задавальняліся. Але ж пры гэтым я падкрэсліваў, што карыстанне маёй роднай і дзяржаўнай мовай ёсць маё канстытуцыйнае права, таму нават я неабавязаны заяўляць хадатайніцтва. А вось высокія судовыя начальнікі, наместнік Старшыні Вярхоўнага Суда І. А. Міранічэнка і першы наместнік П.П. Міклашэвіч не зважаюць на Усеагульную Дэкларацыю правоў чалавека, Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і патрабуюць абавязкова заяўляць хадайніцтва. Усе згаданыя факты знявагі беларускай мовы маюць дакументальнае пацверджанне.

Відавочна грубае парушэнне правоў чалавека, таму спадзявацца на нейкае паразуменне зыходзячы з прымату беларускай мовы, як мовы карэннай нацыі, якая мае багатую культуру і старажытныя помнікі Слова, у тым ліку Стату Вялікага Княства Літоўскага. Гэта фактычна першы ўпарадкаваны збор нарматыўных актаў ад 1583, на тэрыторыі Еўропы і напісаны ён беларускай мовай таго часу. Такім чынам, відавочна парадыгма: ёсць усе падставы для існавання і развіцця беларускай мовы, але ж і існуе істотны супраціў чыноўнікаў дзяржаўнага апарату. Ці ёсць нейкія кампрамісныя варыянты вырашэння такой сітуацыі? Безумоўна ёсць гэта найперш выкананне законаў і павага да правоў чалавека, павага да грамадзян, прадстаўнікоў карэннай нацыі. Калі нашыя апаненты паспрабуюць, пажадаюць нас зразумець і дапамагчы нам у пашырэнні беларускай мовы, то яны ж дапамогуць сабе. Толькі праз беларускую мову можна кансалідаваць грамадства і такім чынам падвысіць істотна яго эфектыўнасць і жыццяздольнасць, а таму і прагрэс усёй дзяржавы. Аб'ядноўвацца на "каўбасе" немагчыма, бо матэрыяльнае можа быць агульным толькі да першага кавалка, аб'ядноўваць трэба на духоўным, найвышэйшым духоўным пачаткам з'яўляецца мова гэта і ёсць крок нацыі і грунт нацыянальнай ідэі.

# Справаздачна-выбарная канферэнцыя Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны

6 сакавіка прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Паводле дакладу старшыні Станіслава Судніка да асноўных вынікаў працы арганізацыі можна аднесці наступныя:

У арганізацыю ўвайходзілі 4 суполкі. На сёння колькасць суполак вырасла да 7.

За справаздачны перыяд праведзены наступныя мерапрыемствы:

-- арганізацыя выконвала асноўную задачу, пастаўленую Рэспубліканскай Радай ТБМ, выданне газеты ТБМ "Наша слова". На сёння выдадзена 169 нумароў газеты. Арганізацыя забяспечыла значную частку фінансавання газеты;

-- арганізацыя выконвала задачу па выданню кнігі "АНЯМЕННЕ". У Лідзе былі зроблены набор кнігі, першапачатковае рэдагаванне і вёрстка:

-- арганізацыя арганізавала збор подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт. Усяго было сабрана больш 9 тысяч подпісаў. Гэта на сёння 20% усіх подпісаў, сабраных па краіне;

-- пры ўдзеле арганізацыі выходзяць лідскія часопісы "Лідскі летапісец" і "Ад лідскіх муроў";

-- арганізацыя правяла ў 1999 годзе несанкцыянаваны пікет з нагоды перапісу насельніцтва. Чатыры чалавекі былі затрыманы міліцыяй і былі складзены пратаколы;

-- сябры арганізацыі ладзілі шэраг мерапрыемстваў культурніцкага і асветніцкага плану і інш.

Быў адзначаны крытычны стан лідскага беларускага школьніцтва (выніковая табліца прыводзіцца) і разгледжаны захады па яго выпраўленню.

Канферэнцыя вырашыла з 2001 года ўстанавіць юрысдыкцыю Лідскай гарадской рады над усімі суполкамі ТБМ г. Ліды, вярнуўшы іх з Лідскай рэгіянальнай арганізацыі ТБМ.

Абрана Лідская гарадская рада ТБМ, старшынём рады абраны Станіслаў Суднік, намеснікам-Артур Ганько.

Абрана Рэвізійная камісія і дэлегаты на VII з'езд ТБМ.

| Класы | Падр. | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мовы | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. | бел. рус. поль. |
| Кол. класаў | 18 51 | 25 47 | 23 34 | 17 12 | 43 42 | 36 38 | 40 33 | 50 25 | 48 25 | 40 31 | 21 25 | 11 34 | 372 396 |
| % | 26 74 | 34,7 65,3 | 40,3 59,7 | 58,6 41,4 | 50,6 49,4 | 48,6 51,4 | 54,8 45,2 | 66,7 33,3 | 65,8 34,2 | 56,3 43,7 | 45,7 54,3 | 24,4 75,6 | 48,4 51,6 |
| Кол. вучняў | 330 991 66 | 499 826 44 | 449 766 66 | 329 282 24 | 952 980 72 | 840 858 83 | 985 796 70 | 1223 497 67 | 1215 621 90 | 1036 590 90 | 478 545 3 | 241 703 - | 8522 9050 618. |
| % | 25 75 | 37,7 62,3 | 37 63 | 53,8 46,2 | 49,3 50,7 | 49,5 50,5 | 55,3 44,7 | 71,1 28,9 | 66,2 33,8 | 63,7 36,3 | 46,7 53,3 | 25,5 74,5 | 48,5 51,5 |

***Заўвага:*** *польская мова выкладаецца, як прадмет (у адной школе факультатыўна), класаў з выкладаннем усіх прадметаў па-польску ў Лідзе няма*





# Да Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі

МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТЕРСТВО ОБОРОНЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

"20" лютага 2001 г. № 1/285
г.Мінск

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы імя
Ф. Скарыны" Трусаву А. А.
220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13

Паважаны Алег Анатольевіч!

Ваш зварот у Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь уважліва разгледжаны.

Ва Ўзброеных Сілах праводзіцца неабходная праца па вывучэнню беларускай мовы. Мы таксама гатовы прыняць удзел у выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.

З павагай

Міністр абароны Рэспублікі Беларусь
Генерал-палкоўнік А. П. Чумакоў.

---

МІНІСТЭРСТВА ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА І ІНВЕСТЫЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТЕРСТВО ПРЕДПРИНИМАТЕЛЬСТВА И ИНВЕСТИЦИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220048 ф-2, Мінск, вул. Мяснікова, 39 тэл. 220-16-23 факс 227-22-40
220048 ф-2, Минск, ул. Мясникова, 39 тел. 220-16-23 факс 227-22-40

28.02.2001 г. № 05-01/563
на № 67 от 06.02.2001 г.

Старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Трусаву А.

Паважаны старшыня!

Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, разгледзеўшы Ваш зварот, падтрымлівае ініцыятыву выпрацоўкі Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.

Пытанні паляпшэння работы па падрыхтоўцы і выданню нарматыўных актаў на беларускай мове, забяспячэнню раўнапраўя дзяржаўных моў былі разгледжаны на нарадзе ў Кіраўніка Апарата Урада ў жніўні 1999 года з удзелам кіраўнікоў структурных падраздзяленняў Апарата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, на якім вызначаны рад мераў па спраўленню існуючага становішча ў дачыненні беларускай мовы.

На гэтай нарадзе міністрам, кіраўнікам рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, старшыням аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, а таксама структурным падраздзяленням Апарата Саветаў Міністраў Рэспублікі Беларусь было дадзена даручэнне забяспечыць падрыхтоўку і ўнясенне на разгляд ва Урад з 1 верасня 1999 года праектаў пастаналенняў, іншых рашэнняў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь толькі на беларускай мове па наступных пытаннях:

- зацвярджэнне складу калегій міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання;
- узнагароджанне Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;
- увекавечанне памяці вядомых дзеячоў;
- правядзенне перагавораў па праектах міжнародных дамоўленасцяў, канвенцый;
- кадравыя пытанні і некаторых іншых.

Міністэрства працуе згодна гэтаму даручэнню і не мае прапаноў па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы.

Першы намеснік Міністра А. І. Швец.

---

МІНІСТЭРСТВА ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ Рэспублікі Беларусь



МИНИСТЕРСТВО ПО ЧРЕЗВЫЧАЙНЫМ СИТУАЦИЯМ Республики Беларусь

*220050, г. Мінск, Рэвалюцыйная, 5 тэл. 206-51-70, тэл./факс 223-77-81*
*220050, г. Минск, Революционная, 5 тел. 206-51-70, тел./факс 223-77-81*

16.02.2001 г. № 16/8/687

Спадару Алегу Трусаву Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Паважаны спадар Старшыня!

Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь з павагай ставіца да пытанняў развіцця нацыянальнай культуры, з разуменнем таго, што яна з'яўляецца невычэрпнай крыніцай творчых сіл народа, адным з дзейсных сродкаў у духоўным развіцці грамадства, падставай супрацоўніцтва паміж людзьмі розных этнічных прыналежнасцей, сродкам выхавання маладога пакалення, умацавання інтэлектуальных і духоўных сіл народа.

Але, на вялікі жаль, у Міністэрства па надзвычайных сітуацыях няма магчымасці далучыцца да распрацоўкі Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі, так як на парадку дня мы вырашаем комплекс непасрэдных задач па папярэджванні і ліквідацыі надзвычайных сітуацый, ахове жыцця і навакольнага асяроддзя.

Спадзяюся, распачатая Вамі праца атрымае шырокую грамадскую зацікаўленасць і знойдзе падтрымку ў шэрагу арганізацый і ўстаноў.

З павагай,
Міністр В. П. Астапаў.

---

МІНІСТЭРСТВА СПОРТУ І ТУРЫЗМУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220050, г. Мінск, вул. Кірава, 8, к. 2.
Тэлефон 227-72-37, 226-10-33
Факс (017) 227-76-22



МИНИСТЕРСТВО СПОРТА И ТУРИЗМА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220050, г. Минск, ул. Кирова, 8, к. 2.
Телефон 227-72-37, 226-10-33
Факс (017) 227-76-22

Ад 15.02.2001 г. № 02/899
На № 73 ад 6 лютага 2001 г.

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь паведамляе, што ў адпаведнасці з Палажэннем аб Міністэрстве, зацверджаным пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 9 лютага 1996 года № 87, на яго ўскладаецца адказнасць за правядзенне дзяржаўнай палітыкі ў галіне фізічнай культуры, спорту і турызму.

Функцыя фарміравання стратэгіі развіцця беларускай мовы ў кампетэнцыю Мінспорту не ўваходзіць.

Першы намеснік Міністра Г. П. Аляксеенка.

---

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ

220010, г. Минск, ул. Советская, 9
тел. 226-51-59

22.02.2001 г. № 06-10/80

220005, г.Мінск,вул.Румянцава, 13
Грамадскае аб'яднанне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

Міністэрства адукацыі разгледзела Ваша пісьмо аб навучальным дапаможніку па навучанні грамаце.

Дасланы Вамі праект табліцы па навучанні грамаце, прапанаваны Асіповіцкай раённай арганізацыяй ТБМ накіраваны ў Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання для абмеркавання на секцыях дашкольнага выхавання і пачатковых класаў.

Адначасова даводзім да ведама, што ў 2000 годзе выдадзены вучэбны дапаможнік "Каса літар, складоў і лічбаў" аўт. І. А. Гімпель, Л. І. Дурэйка, для школ з беларускай мовай навучання, выдавецтва "Белы вецер", г. Мозыр. Падрыхтавана да выдання і складовая табліца па навучанні грамаце тых жа аўтараў.

Для дзяцей дашкольнага ўзросту і падрыхтоўчых класаў выдадзены вучэбна-нагляднь дапаможнік на беларускай мове "Табліцы па навучанні грамаце" аўт. Н.С.Старжынскай.

Намеснік Міністра Г. Д. Дылян

---

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ

220010, г. Минск, ул. Советская, 9
тел. 226-51-59

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

У сувязі з вашым пісьмом Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе наступнае.

У адпаведнасці з планам работы ўпраўленне на сёняшні дзень ажыццяўляецца дапрацоўка адзінага моўнага і арфаграфічнага рэжыму школы. Вашы прапановы будуць разгледжаны.

Адзелу адукацыі Крупскага райвыканкама даручана ўладкаваць канфлікт у сярэдняй школе № 3 г. Крупкі і праінфармаваць Міністэрства адукацыі.

Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі М. С. Фяськоў.

---

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ

220010, г. Минск, ул. Советская, 9
тел. 226-51-59

27.02.2001 №29-06/117

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

У сувязі з Вашым зваротам на імя Міністра адукацыі паведамляем наступнае.

Міністэрствам адукацыі распрацавана праграма дадатковых мер па развіцці беларускай мовы ў сістэме адукацыі. На сённяшні дзень праграма знаходзіцца на разглядзе ў Савеце Міністраў і, як нам вядома, у бліжэйшым часе будзе прынята. У праграме вызначаны першачарговыя і перспектыўныя задачы, на вырашэнне якіх будзе скіравана ўвага органаў і ўстаноў адукацыі.

Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі М. С. Фяськоў.

# Народны альбом

Нядаўна, 23 лютага 2001 года, у Менскім Тэатры Юнага Гледача прайшло ўрачыстае і далёка не першае выступленне тэатра Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа "Народны альбом". Вялікая колькасць гледачоў у зале ў гэты дзень сярод якіх былі прадстаўнікі беларускай культуры, пасол Польшчы і проста навучэнцы розных школ, увесь час падтрымлівалі цудоўную святочную атмасферу спектакля. Выступленне, як звычайна, прайшло на высокім прафесійным узроўні, а яго ўдзельнікі пакінулі аб сабе самыя найлепшыя ўражанні.

Сама ідэя стварэння тэатра "Народны альбом" належала намесніку дырэктара ліцэя імя Я.Коласа і рэжысёру па прафесіі спадару Уладзіміру Коласу. Ён жа і ажыццяўляе гэты праект амаль на працягу двух гадоў. Спектакль быў пастаўлены па п'есе Міхала Анельпадыстава і Лявона Вольскага, а шматлікія песні, узятыя з "Народнага альбома" зрабілі гэтую тэатральную пастаноўку мюзіклам. Уладзімір Колас, увогуле, лічыць, што ліцэйскі "Народны альбом" стаў першым сапраўдным беларускім мюзіклам.

Сёння ліцэйскі спектакль на любой сцэне выглядае надзвычай прафесійна, але гэта ўсё запатрабавала вялікіх высілкаў у кіраўніка і ўдзельнікаў тэатра. А ўдзельнікамі сталі самі навучэнцы ліцэя, узрост якіх вагаецца ад 13 да 17 гадоў. Бясконцыя двухгадовыя рэпетыцыі, паспяховыя спробы давесці ігру юных актораў да дасканаласці – вось толькі невялікая частка таго, што папярэднічала сённяшнім поспехам "Народнага альбома". На дадзены момант многія ўдзельнікі гэтай пастаноўкі іграюць не горш за дарослых актораў.

Увогуле, у спектаклі паказваюцца 20-30-я гады нашага стагоддзя, і ўсе падзеі адбываюцца ў мястэчку Ракаў у Заходняй Беларусі. Нашы юныя выступоўцы цудоўна іграюць і перадаюць характары, звычкі і ідэалы дзейных асобаў спектакля. Асабіста мне больш за ўсё падабаецца, як іграюць свае ролі Вольга Сінькевіч (Броня), Андрусь Бандаровіч (Зміцер Костка), Косцік Ілля (яўрэй Марка). Я лічу, што, дзякуючы нашым юным акторам, "Народны альбом" нясе ў сабе не толькі лірычна-забаўляльны характар, але і патрыятычны. Усе сцэны ў ім прасякнуты бясконцай любоўю ліцэістаў да Радзімы.

Увогуле, на сённяшні дзень "Народны альбом" ужо паспеў даць шэраг сваіх выступленняў у сценах НДГЛ імя Я. Коласа, у Палацы Моладзі і ў Тэатры Юнага Гледача. З 1 па 5 сакавіка спектакль едзе з гастролямі ў Вільню, а з 19 па 25 сакавіка "Народны альбом" завітае ў польскія гарады Бельск, Гайнаўку і Арлу, дзе знаходзяцца беларускамоўныя навучальныя установы. Спадзяюся, што там нашы ліцэісты таксама выступяць на самым высокім узроўні, і за мяжой пра нашу навучальную установу складуцца толькі самыя найлепшыя ўражанні.

Поспехаў табе "Народны альбом", на сусветнай сцэне!

*Навучэнка ліцэя імя Я. Коласа Пархоменка Ірына.*

# Забыццё, раўназначымае дзікунству

У адным з дамоў культуры ішоў канцэрт эстраднай песні, які давалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, запрошаныя з розных творчых калектываў горада. Білеты былі не дарагімі, таму свабодных месцаў у зале, разлічанай на чатырыста чалавек, не засталося. Выступоўцы, а гэта былі пераважна маладыя людзі, пастараліся апраўдаць надзеі слухачоў і ўвогуле не падвялі іх, што адчувалася па чыстых усплёсках апладысментаў публікі, у большасці маладзёвай. Хтосці пасля заканчэння канцэрту назваў яго "супер-відовішчам".

Няхай будзе і так.

Толькі вось што здзівіла і засмуціла: за дзве гадзіны, што ішоў, без антракту, канцэрт, са сцэны не прагучала ні аднай беларускай эстраднай песні. Нават вядучыя яго, людзі, якія раней не раз паказвалі нядрэннае валоданне роднай мовай, вялі праграму па-руску. Вы можаце ўявіць падобнае на Украіне, у Малдавіі, у Грузіі? Ні за што! Там, думаю, зала адразу ж адрэгавала б не самымі прыемнымі рэплікамі па адрасу выканаўцаў. А тут – наадварот, хлапцы і дзяўчаты нават ускоквалі з месцаў ад захаплення пры выкананні кожнай чарговай рускамоўнай песні з рэпертуару 60-80 гадоў, быццам і не было ў тую пору шырока вядомых "Песняроў" з іх цудоўнымі народнымі песнямі, арынжыраванымі на эстрадны манер.

Ад кіраўніка таго дома культуры я пазней пачуў, што выканаўцы песень прыйшлі да яго з загаддзя падабраным імі рэпертуарам, у якім месца беларускай песні ні ў каго не знайшлося. Праўдзіць нешта, - маўляў, ужо не было часу. А ад кіраўніка аднаго з раённых мастацкіх калектываў давялося пачуць рэпліку пасля таго канцэрту, што ў нас і няма добрых беларускіх эстрадных песень. Вось так! Што гэта няпраўда, я змог пераканацца, пабываўшы на канцэрце залужанага артыста Беларусі Якава Навуменкі, які выступаў у Палацы культуры разам з эстраднай групай "Карусель".

Бадай не менш дзевяноста працэнтаў выконаных ім па-майстэрску песень былі беларускімі. Асабліва парадавалі такія, як "Іншапланецянка", "Не хадзі, казачка", "Люба-люба", "Гадзіна пік", "Няміга". Не выпадкова гледачы па заканчэнні канцэрта прасілі артыста-спевака прыязджаць яшчэ ў Слуцк. Значыць, не патухла ў людзей цікавасць да нашых песень – народных і эстрадных.

На жаль, не ўсюды аб гэтым думаюць, выходзячы на сцэну. Таму і прыпомніліся мне мудрыя словы вядомага расейскага, савецкага пісьменніка К. Паўстоўскага, выказаныя яшчэ ў 60-я гады: ***"Человек, равнодушный к своему языку, - дикарь. Он вреден по самому своему существу патому, что безразличие до языка абъясняется самым полным безразличием до прошлого, настоящего и будущего своего народа".*** Быццам пра нас, сённяшніх беларусаў, сказана.

*Мікола Кутнявіцкі, г.Слуцк.*

# Каляндарыкі і календары

"Наша слова" 28.02. 2001 надрукавала нататкі Сымона Барыса "Календары і каляндарыкі на Беларусі", значная частка якіх прысвечана складному каляндарыку, выдадзенаму пры маім удзеле.

Найперш хочацца падзякаваць спадару Барысу за грунтоўны аналіз інфармацыі, змешчанай у каляндарыку, за яго крытычныя заўвагі і парады. Усё ж – справа для Магілёва новая і хібы, відаць, непазбежныя. Калі яна будзе некалі прадоўжана, то слушныя парады нашых добраахвотных дарадцаў будуць улічаны.

На жаль, не ўсё ў спадара Барыса слушнае. І найперш з-за таго, што ён не прыглядзеўся да дробненькага шрыфту і не так прачытаў тое ці іншае слова. "Абазначаны даты святочныя, гераічныя і змрочныя", - піша ён і дадае далей, - скажаце, што ёсць гераічнага ў такіх падзеях як загад фельдмаршала Гіндэнбурга аб наданні беларускай мове роўных правоў з іншымі мовамі або ...". Гераічнага сапраўды ў гэтых падзеях нічога няма, але ж у каляндарыку яны названы горычнымі. Горыч у сэрцы беларуса ад таго, што беларускую мову абараняе нямецкі фельдмаршал, ад таго, што Саўмін БССР толькі ўдакладняе сапсаваную рэфармай мову, ад шмат якіх іншых падзей беларускай гісторыі.

Каляндарык наш планаваўся як маленькі гістарычны даведнік, таму натуральна там адсутнічаюць звесткі аб рэлігійных святах. А адсутнасць Купалы, Карскага, Ластоўскага, Генiюш сярод буйных постацяў беларускай гісторыі тлумачацца толькі тым, што XX стагоддзе там увогуле не закранута. Папершае, не хапіла месца. Па-другое (што важней), XX стагоддзе яшчэ не асэнсавана грунтоўна ў нашай гісторыі. "Вялікае бачыцца на адлегласці". Крыху адыдзем ад тых часоў, тады і ўбачым, хто ёсць Постаць. Натуральна, я не пра Купалу. Ёсць яшчэ і Машэраў, і Пазьняк, і шмат іншых асобаў, якія так ці інакш паўплывалі на нашу гісторыю.

З падзякай за ўвагу да нашага твора.

*М. Булавацкі.*

# "Лісіца з Расохі"




У выдавецтве "Юнацтва" пабачыла свет кніжка Генадзя Тумаша "Лісіца з Расохі". Чытачы "Нашага слова" ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з ейным зместам у мінулым годзе, калі вершаваная казка была надрукаваная з нагоды дня народзінаў паэта. У ёй знаёмыя дзецям героі – звяры, птушкі, свойскія жывёлы -- трапляюць у розныя жыццёвыя варункі. Вобразы гэтых казачных персанажаў ажываюць у малюнках таленавітай мастачкі Рыты Цімохавай. У творы дзеткі пазнаюць не толькі "братоў сваіх меншых", але і самых сябе.

Кніжка для дзетак малодшага школьнага веку выдадзеная накладам 3000 асобнікаў. А набыць " Лісіцу з Расохі" можна ў кнігарнях.

*Ірына Ляксеева.*

# Новыя фільмы ў Беларускім відэаклубе

Шаноўнае спадарства! Да пачатку сакавіка **Беларускі відэаклуб** мае выпусціць новыя відэакасеты на беларускай мове – "**Пан Тадэвуш**" ды "**Матрыца**". Кожная касета каштуе 2500 руб. Разам з перасылкай па Беларусі – 2800 руб. за кожную касету. Каб замовіць гэтыя касеты, трэба перавесці грошы праз пошту на адрас: 220107, Менск, а/с 150, Станішэўскаму Віталю Валянцінавічу. Не забудзьцеся пазначыць Вашае імя па бацьку ды індэкс.

***Увага!*** Сярод пакупнікоў кожных ***100*** касетаў будзе разыграны ***прыз*** – касета з фільмам ***"Гладыятар"*** ад Беларускага відэаклубу!

**Матрыца (The Matrix).** 2:16. Фантастычны баявік. Warner Bros. (1999) Рэжысёры – браты Вачоўскі. У ролях: Кіэну Рыўз, Лорэнс Фішбэрн, Кэры-Эн Мос, Г'юга Ўівінг, Глорыя Фостэр, Джо Панталіяна. Сцэнар – браты Вачоўскі.

*Што такое Матрыца?*

Гэта віртуальная рэчаіснасць. Азірніся навокал. Усё, што ты бачыш, існуе толькі ў тваім уяўленні. Нават гэты аркуш. Ты жывеш у свеце сноў, жывеш у Матрыцы. Яна валодае табою. Матрыца - гэта сістэма, якая трымае ўсіх пад кантролем. І толькі Абраны можа збавіць ад яе ды прынесці Волю.

***Пан Тадэвуш (Pan Tadeusz).*** *2:30. Гісторыя, экранізацыя паэмы Адама Міцкевіча. Heritage Films. (1999). Рэжысёр – Анджэй Вайда. У ролях: Багуслаў Лінда, Даніэль Альбрыхскі, Гражына Шапалоўска, Анджэй Саверын, Марэк Кондрат, Кшыштаф Кальбэргер, Міхал Жаброўскі, Аліцыя Бахледа-Цурусь.*

Дзея адбываецца на пачатку XIX стагоддзя ў Літве, як раней называлася Беларусь. Край знаходзіцца пад расейскім панаваннем, але да берагоў Нёмна набліжаюцца войскі Напалеона, і яны нясуць надзею на вызваленне. Да прыходу Напалеона рыхтуецца паўстанне супраць Расеі. Абставіны вымагаюць еднасці. Але ў маленькай вёсцы Сапліцова не сціхаюць супярэчнасці паміж графскім родам Гарэшкаў ды шляхецкім Сапліцаў. Паспрыяць іх прымірэнню могуць пачуцці між іх маладымі нашчадкамі – Зосяй ды Тадэвушам.

*Нашыя каардынаты: 220107, Менск, а/с 150, Станішэўскі Віталь; тэл. (017) 2134352, 2407801. E-mail: belvidea@hotmail.com ; Інтэрнэт: http://belvidea.cjb.net*

Рэдактар Станіслаў Суднік

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 12. 03. 2001.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 792
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.